# КРЫНІЦА

№10, 26 ЛІСТАПАДА, 2009 www.bchd.info


# II З'ЕЗД БХД



**31 кастрычніка ў Менску ў палацы культуры МТЗ прайшоў II З'езд БХД.**

Нягледзячы на тое, што памяшканне для правядзення з'езду далі толькі за паўтары дні, БХД удалося сабраць 311 дэлегатаў, сотні гасцей і прадстаўнікоў 23 СМІ. На З'ездзе выступілі госці: першы кіраўнік незалежнай Беларусі **Станіслаў Шушкевіч**, старшыня партыі БНФ **Аляксей Янукевіч**, адзін з лідэраў Руху за Свабоду **Віктар Карняенка**, ксёндз **Юрый Барок**, прадстаўнік царквы «Новае Жыццё» **Сяргей Луканін**. Сярод замежных гасцей вылучаліся амбасадар Велікабрытаніі **Роўзмары Томас**, прадстаўнік Еўракамісіі, дэпутат Еўрапарламенту **Альгірдас Саўдаргас**, прадстаўнік Еўрапейскага Хрысціянскага Палітычнага Руху (ЕСРМ) спадар **Лео ван Дюсбург**, прадстаўнікі амбасадаў ЗША, Нідэрландаў, Чэхіі, Нямеччыны, Францыі, Літвы, Латвіі, Венгрыі.

Свае вітанні ўдзельнікам з'езду даслалі лідэр ХДС Нямеччыны **Рональд Пофала**, кіраўнік дэлегацыі Еўрапарламэнту па сувязях з Беларуссю **Яцэк Пратасевіч**, прэм'ер-міністр Літвы, кіраўнік літоўскай хрысціянска-дэмакратычнай партыі «Саюз Айчыны» **Андрус Кубілюс**, а таксама хрысціянска-дэмакратычныя партыі Малдовы, Чэхіі, Вялікабрытаніі, Фінляндыі.

Падчас з'езду было прынятае важнае палітычнае рашэнне – пра ўдзел БХД у мясцовых «выбарах» 2010 году і прэзыдэнцкай кампаніі 2011 году.

Дэлегаты з'езду вырашылі вылучаць свайго партыйнага кандыдата на прэзідэнцкую пасаду – **Віталя Рымашэўскага** – і збіраць спіс ягонай ініцыятыўнай групы. Віталь Рымашэўскі будзе вылучаны прэтэндэнтам на адзінага кандыдата ад Беларускага Незалежніцкага Блоку, і можа зняць сваю кандыдатуру на карысць іншага дэмакратычнага кандыдата, калі той збярэ большы спіс ініцыятыўнай групы.

II з'езд «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі» скончыўся каля 18 гадзінаў агульнай малітвай і спевам гімна «Магутны Божа».

*Выступы лідэраў БХД глядзіце на старонках 2-6.*

# ВІТАЛЬ РЫМАШЭЎСКІ:
## БХД ПАВІННА СТАЦЬ АБАРОНЦАМ ПРОСТЫХ БЕЛАРУСАЎ



За мінулы час мы сцвердзілі, – што Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя – гэта сапраўдная палітычная сіла, сіла, якую характарызуе бескампраміснасць у пытаннях абароны хрысціянска-дэмакратычных каштоўнасцей, абароны незалежнасці Беларусі.

Усё тое, што было зроблена за апошні час, дае магчымасць БХД зрабіць наступны крок – стаць сапраўднай народнай партыяй. Стаць той сілай, якая змагаецца за Беларусь, за кожнага беларуса – за простых людзей: працоўнага і прадпрымальніка, пенсіянера і маладога чалавека.

Беларускі народ пакутуе ад несправядлівасці ў судах і на працы, ад зняважы з боку ўладаў. Сённяшняя ўлада абараняе толькі інтарэсы чыноўнікаў і бюракратаў, прадстаўнікоў сілавых структур – міліцыі, КДБ і інш.

Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя павінна стаць абаронцам простых беларусаў, абаронцам беларускага народа.

У Евангеллі сказана: «Вы святло свету… няхай святло вашае свеціць перад людзьмі» (Мф. 5:13-16).

І калі ў нас, хрысціян, не будзе сіл перамагаць зло ў свеце, то марныя спадзевы на тое, што гэтыя сілы знойдуцца ў кагo іншага.

Таму бліжэйшыя мясцовыя выбары – гэта нашая магчымасць прыйсці да людзей, сустрэцца з кожным, каб у беларусаў з’явіўся шанец на лепшую будучыню.

Я не буду вас пераконваць, што бліжэйшыя два гады нас чакаюць лёгкія перамогі. Нам не будзе проста.

Хутчэй за ўсё, вялікія сродкі зноў будуць у тых, хто гатовы бяздумна і безадказна рабіць усё, што скажуць на Ўсходзе і на Захадзе.

Хутчэй за ўсё, беларускія ўлады, баючыся хрысціянскіх дэмакратаў, будуць рыхтаваць чарговыя паклёпы на тэлебачанні, у газетах, выкарыстоўваць іншыя магчымасці, каб ачарніць БХД.

Бо час выпрабаванняў – гэта таксама дабраславёны час, калі яскрава відаць, хто твой сябра, а хто здраднік, хто баязлівец, а каму Гасподзь дае мужнасць.

Ад імя Беларуская Хрысціянскай Дэмакратыі я выказваю падзяку Беларускай Праваслаўнай Царкве, тым святарам і вернікам, якія падтрымалі партыю і асудзілі хлусню і паклёп падрыхтаваныя БТ. Таксама дзякую ўсім ксяндзам, пастарам і простым вернікам, якія падтрымалі мерапрыемствы і кампаніі БХД па усёй Беларусі..

І я веру, што ў беларускага народа, у простых беларускіх людзей знойдуцца сілы на тое, каб адрадзіць незалежную беларускую палітыку, збудаваць сапраўды незалежную беларускую дзяржаву, абараніць веру і свабоду на нашай зямлі.

Прыйшоў час сцвердзіць, што беларусы – гэта не быдла, гэта годныя павагі і справядлівасці людзі.

Таму і на бліжэйшых прэзідэнцкіх выбарах мы павінны быць гатовы ўзяць адказнасць на сябе за тое, што будзе адбывацца ў краіне.

Менавіта таму нашай стратэгічнай задачай з’яўляецца вылучэнне Адзінага кандыдата ад Беларускага Незалежніцкага Блоку, для таго, каб выступіць адзінай камандай, аб’яднанай супольнымі каштоўнасцямі.

Я, як кандыдат ў прэзідэнты, вылучаны вамі, гатовы ўдзельнічаць у працэсе вылучэння Адзінага. Я абяцаю скарыстаць усе магчымасці і прыкласці ўсе свае сілы для перамогі.

Таксама абяцаю вам, што буду заўсёды гатовы ахвяраваць сваімі ўласнымі амбіцыямі, але толькі згодна з вашым рашэннем і толькі на карысць Беларусі, на карысць Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.

Жыве Беларусь!

Жыве з Богам!

# АЛЯКСЕЙ ШЭІН:
## БХД ПАКЛІКАНАЯ СТВАРАЦЬ МАРАЛЬНУЮ БОЛЬШАСЬЦЬ У БЕЛАРУСКІМ ДЭМАКРАТЫЧНЫМ РУХУ



Дарагія сябры!
Браты і сёстры!

Самы страшны крызіс, які мы назіраем зараз у Беларусі – гэта не фінансавы крызіс, і нават, магчыма, не аўтарытарна-дыктатарскі рэжым, а **маральны, а адсюль – і дэмаграфічны крызіс грамадзтва**. І нават калі на першых дэмакратычных парлямэнцкіх выбарах БХД пераможа ці ўвойдзе ў кіруючую кааліцыю, палітычнай сілы, палітычнага рычага, будзе недастаткова, каб зьмяніць сытуацыю глыбока ў самім народзе. Таму мы мусім стварыць новыя законы, якія дадуць магчымасьць свабодна дзейнічаць рэлігійным сацыяльным цэнтрам, цэнтрам рэабілітацыі нарка- алказалежных, дабрачынным арганізацыям, і самім рэлігійных грамадам.

30% мужчынаў-алькаголікаў, адзін з самых высокіх у сьвеце паказчык зробленых абортаў, адзін з самых высокіх у сьвеце паказчык ўчыненых самагубстваў, адзін з самых высокіх у сьвеце паказчык разьведзеных сем’яў. З 1994 году, з таго самага году, як Беларусьсю кіруе гэтая ўлада, у краіне вымерла каля 600 000 чалавек – без войнаў і эпідэміяў. І пра якую стабільнасьць у Беларусі можна гаварыць? Стабільнасьць ёсьць – у выміраньні. Аднак нам такая стабільнасьць не патрэбная!

Мы, як хрысьціянскія дэмакраты, ужо зараз мусім рыхтавацца да будучых пераменаў, якія раней ці пазьней прыйдуць у Беларусь. Мы мусім распрацоўваць праекты новых законаў, якія тычацца і эканомікі, і супрацьдзеянню алькагалізацыі, і барацьбы з карупцыяй, і іншыя.

Мы таксама павінныя нарошчваць нашыя сілы – колькасьць сябраў, колькасьць дзеяздольных структур у гарадах і вёсках. **Місія БХД – стаць самай масавай і самай уплывовай партыяй у Беларусі**. Нам трэба займаць актыўную наступальную пазыцыю. Я глыбока перакананы, што нам трэба актыўна выкарыстоўваць тыя магчымасьці працы, якія даюць мясцовыя і прэзыдэнцкая выбарчыя кампаніі.

**Акрамя таго, БХД паклікана стварыць маральную большасьць у беларускім дэмакратычным руху**. Мы ня толькі павінны выступаць за агульначалавечыя, хрысьціянскія каштоўнасьці, але і самі кіравацца гэтымі каштоўнасьцямі ў палітычнай дзейнасьці. Палітыка ў выкананьні Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі павінна быць шчырай, хрысьціянскай. Для нас недапушчальна выкарыстоўваць тыя метады, якія, на жаль, часта выкарыстоўваюцца ў тым ліку і ў дэмакратычных арганізацыях: двудушнасьць, інтрыгі ці няшчырасьць. Мы пакліканыя Богам да таго, каб несьці новую палітычную культуру ў Беларусі.

Актыўнасьць, масавасьць, крэатыўнасьць, і хрысьціянская шчырасьць – такі рэцэпт нашага посьпеху.

Тады мы ўбачым і плады нашай дзейнасьці, і, самае галоўнае – новую, адроджаную, хрысьціянскую і свабодную Беларусь!

Жыве Беларусь!
Жыве з Богам!

# ГЕОРГІЙ ДЗЬМІТРУК:

## БЕЛАРУСКІ НАРОД ПРЫМЕ, ЗРАЗУМЕЕ І ПАДТРЫМАЕ НАС



Паважаныя дэлегаты з'езда, паважаныя госці.

Біблія кажа: Іер.6: 16 «Так кажа Гасподзь: спыніцеся на шляхах вашых і разгледзьце, і распытаеце пра шляхі старажытных, дзе шлях добры, і ідзіце па ім, і знойдзеце спакой душам вашым».

Сёння БХД кажа: «Хрысціянскія каштоўнасці і беларускі патрыятызм выратуе Беларусь». Гэта і ёсць гэты «добры шлях», аб якім кажа Біблія.

Па ім трэба ісці зараз, калі крызіс спыняе фабрыкі і заводы, калі сама ўлада стамілася ад уласнай хлусні і крывадушнасці. Паглядзіце! Кіданні то на ўсход, то на захад, то на поўнач, то на поўдзень! Падобна на тое, яны заблыталіся і заблукалі ў прасторы? Страцілі сябе ў сістэме каардынат? У пошуках спонсараў і партнёраў рэжыму? Мы прапануем звярнуць увагу на Таго, Хто на версе! Гэта Гасподзь Бог! Давайце павернемся да Яго!

Сёння я назаву вам 5 прычын, чаму мы з вамі абавязкова атрымаем падтрымку і прызнанне Беларускага народа.

1. Таму што мы самі верым у тое, што абвяшчаем. Мы не проста вывучаем хрысьціянска-дэмакратычныя прынцыпы па кнігах, мы жывем імі!
2. Таму што мы адзіная палітычная сіла, якая заклікае жыць не толькі лепш, але і чысцей! Мы нясем з сабой хрысціянскія каштоўнасці! Народ стаміўся ад бруду, хлусні і карупцыі! Беларусі патрэбныя новыя, чыстыя палітыкі!
3. Настаў час пераменаў! Крызіс унясе з сабой астанкі каманднаадміністрацыйнай сістэмы з элементамі рынкавых адносінаў. На змену павінна прыйсці новая, сацыяльная, рынaчная эканоміка і, вядома, нацыянальнае Адраджэнне ва ўсіх сферах!
4. БХД – гэта маладосць! БХД – гэта сіла! БХД – гэта модна, БХД – гэта крута! У нас шмат маладых! У нас ёсць перспектыва! Калі ты з намі – і ў цябе ёсць перспектыва! Выбірай перспектыўны шлях з перспектыўнымі калегамі!
5. Калі Бог за нас, то хто супраць нас! – Так заяўляе аўтарытэт Бібліі! І мы разам з вамі і мільёнамі беларусаў разам пабудуем новую Беларусь, дзе кожны беларус будзе адчуваць сябе свабодным і абароненым!

Так што ж мы можам рабіць, каб БХД стала самай уплывовай партыяй у Беларусі?

Паглядзім, што рабіў Ісус! Яго вучэнне распаўсюдзілася па ўсім свеце, замяніўшы сабою вучэнні Канфуцыя, Платона і Арыстоцеля. Канкурэнцыі не вытрымлівае камунізм, гуманізм і сацыялізм. Вучэнне Ісуса аб любові перавярнула ўвесь свет і змяніла свядомасць мільярдаў людзей.

За 3 з паловай гады Ісус зрабіў вельмі многае, і зрабіў самае галоўнае. Ён паўнавартасна падрыхтаваў сваіх 12 вучняў, якія не толькі ведалі тэорыю вучэння, але і былі прасякнуты духам любові і спачування, як і іх Настаўнік. 12 вучняў з гонарам выканалі ускладзеныя на іх функцыі, нягледзячы на тое, што ў асноўным яны былі простымі рыбакамі. Плюс адзін урач, плюс адзін тэолаг, плюс адзін падатковы інспектар.

Сёння ў гэтым зале прысутнічае шмат выдатных людзей, у якіх сэрца напоўнена любоўю і спагадай да свайго народу. Так давайце будзем дзейнічаць так, як дзейнічаў Ісус. Кожны хай распаўсюдзіць ідэі БХД за бліжэйшых 3 гады на 12 чалавек і нас стане дзесяткі тысяч! А праз 6 гадоў нас стане сотні тысяч! Працуйце з тымі людзьмі, якія вакол вас! Дзяліцеся з імі часткай свайго духу! Запаліце у іх любоў да свайго народу, да сваёй Радзімы! Прапаведуйце ім хрысціянскія каштоўнасці! Кажыце ім аб адказнасці перад Богам за краіну, у якой яны нарадзіліся! Прывядзеце ў БХД 12 чалавек! За 3 гады гэта не шмат. Гэта вам па сілах!

Але на даляглядзе ўжо з'явілася іншая небяспека. Улада задумала чарговы вар'яцкі план. Бязлітасны. Ператварыць Беларусь у адно вялікае казіно. Ужо складзены план і ідзе інтэнсіўны пошук інвестараў. У што яны хочуць ператварыць Беларусь? У Садом і Гамору для бязбожнікаў з усяго свету. Уся Беларусь – адна гульнявая пляцоўка! Гэта іх задума. Рулетка і аднарукія бандыты, начныя клубы і прытоны. Ператварэнне працавітых беларусаў у гульцоў або абслуговы персанал для ўлады – гэта рэальная пагроза для кожнай сям'і, для кожнага беларуса. Расіяне, палякі і ўкраінцы, наеўшыся «гульнявых прысмакаў», абвясцілі гульнявы бізнэс па-за законам і спрабуюць усімі сіламі перамагчы гэтую чуму 21-га стагоддзя. А што робяць нашыя ўлады? Адсутнасць здаровага сэнсу і абсалютная бездухоўнасць – вось прычына падобных памылак дзяржаўнага планавання.

Дарагія беларусы! Не дазвольце рэжыму ператварыць нашу любімую краіну ў «Вялікае казіно», а нашых дзяцей у гульцоў, а наша жыццё ў рулетку. БХД пачынае агульнанацыянальную кампанію супраць гэтага зла!

# ДЗЯНІС САДОЎСКІ:

## НАС ТЫСЯЧЫ, І МЫ ПЕРАМОЖАМ!

Рады Вас вітаць на з’ездзе партыі “Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя”. Хацеў бы сказаць некалькі слоў пра тую дзейнасць, якую я вёў на працягу гэтых васьмі месяцаў на пасадзе адказнага сакратара партыі. За гэты перыяд я ў асноўным займаўся тэхнічна-арганізацыйным забяспячэннем дзейнасці партыі. Гэтая дзейнасць не заўсёды заўважаная, але без яе арганізацыя не здолела б эфектыўна функцыяваць. Сваю дзейнасць я магу параўнаць з дзейнасцю масла ў рухавіку аўтамабіля. Калі няма масла, рухавік працаваць не будзе. Так і я дапамагаю рэалізацыі кампаній і акцый БХД, здзяйсненню розных ідэй і праектаў. Мая дзейнасць выражалась у наступным:





- Агульнае кіраванне Ўправай БХД. За гэты час адбылося 34 сходы Управы.
- Прадстаўляў БХД у Міністэрстве юстыцыі. Нажаль, партыю БХД не зарэгістравалі, аднак можна адзначыць той факт, што грошы, пералічаныя за рэгістрацыю, мы дзяржаве не пакінулі. 1 млн. 750 тысячаў нам вярнулі.
- Па меры неабходнасці таксама я займаўся інфармацыйнай, культурніцкай дзейнасцю БХД, уісім кампаніямі і акцыямі, што ладзіла БХД за справаздачны перыяд.

Калі працягнуць параўнанне БХД з аўтамабіляў, то ў ім ёсць яшчэ шмат дэталяў, без якіх машына не паедзе. Без кожнай з іх аўтамабіль – ні да чога не прыдатная груда жалеза. Дык вось, кожны з нас, тут прысутных, ёсць часткай нашай агульнай машыны пад назвай БХД. І кожны з нас адказны за добры стан нашага аўтамабілю.

А зараз давайце ўявім такую сітуацыю: нехта з кіраўнікоў ці сябраў БХД заявіць, што ён стаміўся і больш не хоча працаваць на БХД, патэлефануе Паўлу Севярынцу і паведаміць аб сваім выхадзе з партыі: “Надакучыла, стаміўся, чаму толькі я працую?” Што адбудзецца далей? Прыкладна тое ж, што адбудзецца з машынай, якая едзе на поўный ходу, а руль раптам адмовіцца працаваць і заявіць: “Я тут кручусь-верчусь, за ўсіх працую! Хопіць! Надакучыла! Сыходжу!” Праз некалькі секунд адбудзецца аварыя. Не, машыну можна будзе парамантаваць, замяніць капрызны руль, і машына зноў паедзе. Але будзе згублен час. А нам зараз час губляць нельга. Нам трэба рухацца наперад. Перад намі стаяць амбітныя задачы і мы павінны іх рэалізаваць. Таму я заклікаю ўсіх прысутных да адказнасці за тое месца, якое вы займаеце, за тую працу, якую вы выконваеце. Каб як мага эфектыўней працаваць на карысць БХД, каб сапраўды не адбылося ў нас ніякай аварыі, а наадварот, мы набіралі ўсё большую і большую хуткасць і дасягнулі тых мэтаў, якія мы перад сабой ставім. Кожны з вас вельмі важны для БХД.

Зараз тут сабраліся лепшыя людзі краіны, на якіх ускладзена вялікая адказнасць за лёс Бацькаўшчыны. І гэта не проста высакапарныя словы. Бо БХД – гэта не проста новая партыя. БХД – гэтая лепшая партыя, партыя новых стандартаў. Партыя пераможцаў!

Дык будзем еднымі, адказнымі і моцнымі! Уздымем наш бел-чырвона-белы штандарт, сцяг Хрыста!

Як кажа Святое Пісанне, адзін чалавек, які верыць у Бога, пераможа тысячу. А два –дзесяткі тысячаў. Нас тут не адзін, не два і не сотні. Нас тысячы! І мы пераможам!

Жыве Беларусь!

Жыве з Богам!

# ПАВАЛ СЕВЯРЫНЕЦ:

## НАШ ЗАДАЧА – АБАРАНЯЦЬ ВОБРАЗ І ПАДАБЕНСТВА БОЖАЕ Ў КОЖНЫМ ЧАЛАВЕКУ, ЯКІ ЖЫВЕ Ў БЕЛАРУСІ



Перш за ўсё, дарагія сябры, за дзейнасць нашай партыі падчас апошніх васьмі месяцаў мы мусім падзякаваць Богу. Тое, што было зроблена – чалавеку немагчыма. А з Госпадам – усё магчыма. Дзякуй Богу, Які натхняе нас, запальвае нашыя сэрцы, аджывае нас ад нашых грахоў і вядзе да Сабе, да тае будучыні, якую абяцаў тым, хто любіць Яго. Мы верым у Бога, мы любім Беларусь, і з гэтым мы пераможам!

Соллю нашай з вамі хрысціянска-дэмакратычнай палітыкі павінна быць увага і павага да чалавека, як вобраза і падабенства Божага, абараняць і адстойваць гэты вобраз Боскі ў асобе, у грамадстве і ў дзяржаве. Гэта – сапраўды вастрыё палітыкі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Калі дзесьці чалавека незаконна высяляюць з дома, Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя павінна быць там, каб абараняць гэтага чалавека. Калі дзесьці чалавку не даюць права на веру, не даюць права на мову, Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя шчыльнымі шэрагамі павінна стаць на яго абарону. Калі дзесьці ў Беларусі чалавека прыніжаюць, падманваюць, – Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя павінна быць там. Наша задача – абараняць вобраз і падабенства Божае ў Беларусі і ў беларусах.

Дарагія сябры!

Калі мы будзем рабіць гэта, веру, што мы станем вядучай партыяй у краіне, мы зможам сапраўды выяўляць альтэрнатыву дзейснаму рэжыму. І ключавая тэма, якая, на мой погляд, будзе галоўнай падчас бліжэйшых палітычных кампаній, гэта выклік Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Карупцыя, якая працяла ўвесь сённяшні дзяржаўны механізм. Сённяшняя дзяржава крадзе і хлусіць, і на гэтым трымаецца: на страху, хлусні і на крадзяжы. Карупцыйныя схемы з’яўляюцца рухавіком дзяржаўнай машыны. Хтосьці крадзе. Хтосьці мае кампрамат на таго, хто крадзе і трымае яго ў страху і падначаленні. Так працуе сённяшняя ўлада. Але мы з вамі сумленныя людзі. Мы з вамі хрысціянскія дэмакраты. Значыць мы з вамі падчас бліжэйшых кампаніяў – мясцовых «выбараў» і «выбараў» прэзідэнта – павінны адказаць на гэты выклік і перамагчы гэтае зло, зламаць хрыбет карупцыі, якая раз’ела сённяшнюю беларускую дзяржаву. Мы павінны змяніць рэжым, які крадзе і хлусіць.

Дарагія сябры!

Тое, што мы робім, гэта тое, у што мы верым. Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя прыйдзе да ўлады, і тады страх і хлусня перастануць быць нормай у беларускім грамадстве.

Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя прыйдзе да ўлады, і тады аборты, алкагалізм і самагубствы перастануць быць нормай у Беларусі.

Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя прыйдзе да ўлады, і тады Беларусь сапраўды будзе вольнай.

Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя ўрэшце пераможа і Беларусь будзе жыць як належыць. *(апладысменты)*

Жыве Беларусь!
Жыве з Богам!

# Пераможца ДВУБОЮ

## КАСТУСЬ ЖУКОЎСКІ: СІТУАЦЫЮ Ў КРАІНЕ ЗДОЛЬНАЯ ЗМЯНІЦЬ ТОЛЬКІ БХД



*Кастусь жукоўскі*

**У фінале спаборніцтва «Двубой» перамог лідэр Гомельскай арганізацыі БХД Кастусь Жукоўскі. Нагадаем, тэма фінальнага паядынку была наступная: «Нацыянальныя сімвалы і мова: зараз ці потым». Пераможца распавёў «Крыніцы» пра сябе, свае погляды, БХД і Беларусь.**

**– Кастусь, распавядзіце, калі ласка, чытачам «Крыніцы» колькі словаў пра сябе.**

*– Я нарадзіўся ў 1975 годзе ў вёсцы Яланы Светлагорскага раёну Гомельскай вобласці. Скончыў школу, каледж па спецыяльнасці юрыдычны кансультант. Потым прыйшлося доўгі час шукаць шчасця за мяжой пасля таго, як на дзяржаўнай працы ў мантажным упраўленні зразумеў, што на гэтыя грошы жыць немагчыма, хаця* ***Аляксандр Лукашэнка*** *лічыць наадварот. Цягам сямі год я быў на заробках, потым прыехаў, ажаніўся, пабудаваў дом, купіў машыну – і пачаў змагацца за Беларусь, бо пабачыў свет.*

**– Што для Вас ёсць Беларусь?**

*– Беларусь – гэта краіна ад мора да мора, са сцягам Хрыста і гербам Пагоня. Калі ж казаць пра цяперашнюю рэальнасць, то Беларусь – гэта людзі, якія тут жывуць. Зараз, нажаль, усе яны ( не выключаючы і мяне) існуюць у рабстве, рабстве грэху. Грэху і страху. Законы для простых людзей не дзейнічаюць увогуле, у выміраючых вёсках – алкагалізм, у гарадах – таксама, чынавенства – наскрозь хлуслівае... А вось якой яна павінна быць? Лічу, такой, дзе любы чалавек, нягледзячы на адукацыю ці «блат», мог бы працаваць і зарабляць на годнае жыццё. Законы будуць для ўсіх аднолькавыя, народ сам сабе будзе выбіраць кіраўнікоў. Вось якой я бачу будучую Беларусь.*

**– Як і чаму Вы прыйшлі ў «Беларускую Хрысціянскую Дэмакратыю»?**

*– Я проста не бачыў і зараз не бачу ў Беларусі ніякай іншай сілы – акрамя БХД – якая была бы здольная змяніць сітуацыю ў краіне. Галоўнае – яна заснаваная на хрысціянскіх каштоўнасцях. Бо калі няма хрысціянскіх пачаткаў у чалавека, то ён крадзе, забівае, хлусіць. Няма тады ў яго маральных нормаў, бо ўсе гэтыя нормы выцякаюць з хрысціянскіх прынцыпаў. Глядзіш на іншыя палітычныя сілы: нібыта ўсё добра, але не бачыш таго падмурку, на якім можна збудааваць дом. І калі пойдзе дождж, уздымецца вецер – дом разваліцца. А БХД будуецца на камні, на падмурку Хрыста. І дому на такім падмурку – нічога не страшна. Калі няма веры – знікае ўсё. «Па веры вашай і будзе вам», – так сказаў наш Гасподзь. І калі мы верым і робім тое, у што верым, – абавязкова ўсё ў нас будзе добра. Толькі трэба старацца не збочваць са свайго шляху.*



– «Двубой» – спаборніцтва лідэраў. Вы ў ім перамаглі. Што для Вас значыць – быць лідэрам?

*– Я не лічу сябе лідэрам. Лідэр павінен быць адзін. Мы часта ствараем сабе псеўдалідэраў. Дзе я перамог? Насамрэч, у шляху да фіналу мы з* ***Леанідам Скарабагатым*** *адзін аднаму дапамагалі. Людзі такія, якія яны ёсць – хтосьці такі, а хтосьці іншы. А вось лідэр павінен быць адзін. Дарэчы, мой супернік у апошнім «Двубоі» Леанід Скарабагаты хай не крыўдзіцца на паразу. Я прапаноўваў яму падзяліць перамогу напалам, але ён не пагадзіўся. Прычым я ўсё ж лічу, што ў фінале ў нас, можна сказаць, была нічыя.*

– Гомельская БХД – адна з найбольш актыўных арганізацыяў партыі. Як Вы будуеце яе працу?

*– Тут нічога складанага. Кожны робіць свой кавалак працы. Праўда, умешваецца цэнтр і расстаўляе кропкі, незразумелыя для мяне асабіста. І гэтым ён наносіць вялікую шкоду не толькі мне, але і астатнім. Я б раіў цэнтральнаму кіраўніцтву БХД не перашкаджаць нам, а лепш дапамагаць. Мы працуем столькі, колькі можам. Проста трэба зладжана працаваць, рабіць справу, а потым брацца за другую.*

– Ведаем, што Вы шмат ужо пацярпелі ад уладаў: шматлікія штрафы, арышты. І ўсё ж такі працягваеце барацьбу. Чаму?

*– Пакуль мы не зробім сваю справу – не кінем. Хаця праваабарончая сфера ў БХД пакуль недастаткова працуе. Пакуль не датэлефануешся сустаршыням партыі* ***Паўлу Севярынцу*** *ці* ***Віталю Рымашэўскаму*** *– дапамогі не будзе. Чаму ж усё-такі не кідаем? Ды таму, што перамога хрысціянскай сілы ў Беларусі – яна непазбежная, як узыход сонца. Але трэба сапраўды верыць у хрысціянскія каштоўнасці, бо калі толькі казаць пра іх, то нічога не выйдзе.*

– Што б Вы пажадалі чытачам «Крыніцы»?

*– Па-першае, здароўя і моцы вядоўцы «Двубою»* ***Ірыне Губскай****, якая вельмі хварэе за рубрыку і стараецца рабіць яе з кожным разам больш якасней. Спадзяюся, што цягам невялікага часу «Крыніца» з бюлетэня пераўтворыцца ў паўнавартасную газету з добрым накладам, якая стане карыстацца попытам у вялікай колькасці беларусаў.*

*Хачу выказаць і свае падзякі. Перадусім, дзякую за ўсё Богу. Жонцы* ***Алене*** *– за цярплівасць. Дзякую ўсім, хто за мяне галасаваў, усім, хто падтрымліваў, хто натхняў мяне на перамогу. Асобна хачу падзякаваць кіраўніцы юрыдычнага аддзелу «Маладога Фронту»* ***Насці Лойцы****, якая абараняе не толькі нашыя правы, але часам жыццё і здароўе.*



*Акцыя ў Гомелі*

# У НАВАГРУДКУ ЛЕНІН СТАЎ ЗЯЛЁНАГА КОЛЕРУ

**У ноч з 6 на 7 лістапада ў Навагрудку ў гонар чарговай гадавіны кастрычніцкага пераварота мясцовы помнік Леніну абліты зялёнай фарбай. Затрыманыя моладзевыя актывісты БХД.**



*Юрый Казак*

Як паведміў прэсавай службе пастар Навагрудскай царквы “Новае пакаленне” **Уладзімір Качагур**, лідэр мясцовай суполкі маладых хрысціянскіх дэмакратаў **Дар’я Бахур** і **Юрый Казак** былі затрыманыя ноччу ж. У іх былі знойдзеныя фарба і пальчаткі.

– *Маштабы і хуткасць аблавы нас здзівілі,* – адзначыў пастар.

Маладзёнаў пратрымалі ў пастарунку тры гадзіны і адпусцілі, склаўшы пратакол аб адміністрацыйнай адказнасці. Аднак паводле Юрыя Казака, начальнік аддзела правапарадку Навагрудскай міліцыі **Аляксандр Краўчук**, які вядзе іхную справу, пагражаў ім крымінальнай адказнасцю.

12 лістапада ў Наваградку быў дапытаны **Юры Казак**.

Допыт актывіста БХД адбыўся ў прысутнасці адваката **Паўла Сапелкі**.

Следчы паведаміў **Казаку**, што супраць яго ўзбуджаная крымінальная справа па частцы 1-й артыкула 339 КК – “хуліганства”.

Юры Казак адмовіўся даваць паказанні, выкарыстаўшы сваё канстытуцыйнае права.

Частка 1-я артыкула 339 прадугледжвае пакаранне: 3 гады турмы, так званая “хімія” альбо штраф.

Усувязі з гэтым сябра БХД Юрый Казак распаўсюдзіў наступную заяву:

– *Я лічу, што крымінальная справа, якую ўзбудзілі супраць мяне, незаконная. Па-першае як можна парушаць грамадскі парадак і выражаць яўную непавагу да грамадства ў тры гадзіны ночы. Па-другое, ідалы Леніна стаяць па ўсёй Беларусі і супярэчаць хрысціянскай веры, прынцыпам. Помнікі Леніну, якія стаяць па усёй краіне, з’яўляюцца не толькі камуністычным мінулым, але і прызнакам камуністычнай ідэалогіі ў краіне (якая пануе да сённяшняга часу). Гэта не “исключительный цинизм” (які мне інкрымінуюць), а абарона хрысціянскіх каштоўнасцяў і прынцыпаў, якя павінны стаяць у падмурку нашай краіны, палітыкі, улады.*

*Пад імем Леніна і за яго імя знішчалі мільёны хрысціян і простых людзей, абвяшчалі вайну хрысціянству і Богу, знішчалі святыні, а цяпер ён у нас сам святы, што яго помнік ахоўваюць лепей, чым хрысціянскія святыні і могуць пасадзіць на 3 гады.*



*У Навагрудку*



# «ІДЗІЦЕ І НАВУЧЫЦЕ ЎСЕ НАРОДЫ»

**7-8 лістапада 2009 года ў касьцёле святых. Сымона і Алены ў Менску адбылася канферэнцыя «Евангелізацыя ў секулярызаваным грамадстве», прысьвечаная праблеме хрысьціянскай пропаведзі ў Беларусі.**

*«Ідзіце і навучыце ўсе народы»* (Мацьвея, 28:19) – казаў Ісус. Стагоддзямі хрысьціяне навучалі сваёй веры народы, якія яшчэ не ведалі Хрыста. ХХ стагоддзе паставіла нас перад новым выклікам: трэба прапаведваць ужо не сярод плямёнаў Афрыкі ці Азіі, а ў краінах са шматвяковай хрысьціянскай традыцыяй. *«Калі сёння мы спытаем сябе, колькі нашых знаёмых і сяброў прызнала Хрыста сваім Госпадам, то вельмі лёгка адкажам, што евангелізаваць трэба не толькі тых, хто не ведае Хрыста, але і саміх хрысціян»*, – зазначыў у сваім дакладзе Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч. Нядаўняе дасьледваньне кс. Сяргея Пекачова аб рэлігійнасьці моладзі Менска выявіла ўражвальную лічбу: толькі 5,4% (!) менскіх школьнікаў з'яўляюцца ўцаркоўленымі хрысьціянамі.

Мітрапаліт Кандрусевіч таксама «прайшоўся» па асноўных накірунках прапаведніцкай працы, пры гэтым асабліва выразна падкрэсьліў неабходнасьць актыўнасьці сьвецкіх вернікаў, моладзі ды царкоўных рухаў. На пытаньне пра магчымасьць стварэньня ў Беларусі каталіцкай моладзевай арганізацыі Мітрапаліт адказаў, што першыя крокі ў гэтым кірунку робяцца, аднак шмат залежыць і ад самой моладзі.



Кс. Аляксандр Амяльчэня, які выконвае абавязкі адказнага за СМІ пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі, казаў пра небясьпеку стварэньня замкнутай і адасобленай хрысьціянскай культуры і медыяпрасторы. На яго думку,



патрэбна выходзіць на шырокую аўдыторыю, выкарыстоўваючы пры гэтым і сьвецкія СМІ: Інтэрнэт, тэлебачаньне, мясцовую прэсу. *«Лягчэй за ўсё «аслупаваць» тэрыторыю каталіцкім дызайнам, каталіцкімі банерамі, каталіцкімі аватарамі, убачыўшы якія чалавек «звонку» адразу зразумее: туды яму лепш не заходзіць – варожая тэрыторыя. Куды больш складана данесці асноўныя хрысціянскія праўды на мове, зразумелай і даступнай для любога наведвальніка».*

Праваслаўны сьвятар а. Аляксандр Шымбалёў заявіў, што Беларуская Праваслаўная Царква зноў зьбіраецца дамагацца ад Міністэрства адукацыі ўвядзеньня «Асноваў хрысьціянскай культуры» у сярэдніх школах. *«Калі выхаваньнем моладзі не займаюцца ні школа, ні бацькі, то гэтую справу мусіць браць на сябе Царква»*, – зазначыў а. Аляксандр.

Пакуль герархі Царквы заклікаюць да пропаведзі і да хрысьціянскага сьведчаньня, астатняя амаль двухмільённая маса каталіцкіх вернікаў, за некаторымі выняткамі, трымаецца пазіцыі «мая хата з краю». Царкоўныя рухі маляліки, ды і ў іх, што насьцярожвае, амаль не так шмат моладзі. На згаданай канферэнцыі прысутнічала усяго каля паўсотні чалавек: тэма пропаведзі мала каго цікавіць. Калі так будзе і найдалей, складана казаць пра духоўнае абуджэньне Беларусі.

*Кастусь Шыталь*

***Дарагія чытачы «Крыніцы»!***

*Сёньня ў нашай рубрыцы мы прадстаўляем праект «ТВАЁ ІМЯ, БЕЛАРУСЬ». У кожным нумары газэты мы будзем друкаваць матар’ялы пра найвялікшых беларусаў і беларусак. Мэта: выбраць Імя Беларусі – асобу, што выяўляе нашу Радзіму найпаўней. Пачалі мы з Эўфрасіньні Полацкай, беларускай сьвятой. Атрымальнікі нашай паштовай рассылкі пазначылі, пра каго б яны хацелі прачытаць у «Крыніцы»: найбольш галасоў набралі Францішак Скарына (22), Кастусь Каліноўскі (18), Янка Купала (18), Васіль Быкаў (17), Вітаўт (17), Міхал Клеафас Агінскі (16), Максім Багдановіч (15), Уладзімір Караткевіч (14), Леў Сапега  (14), Мікалай Радзівіл Чорны (12). Запрашаем і вас удзельнічаць у праекце – дасылаць свае тэксты і меркаваньні. Сеньня мы прадстаўляем* **Уладзіміра Караткевіча***.*

***Абярэм Імя Беларусі разам!***



# Уладзімір Караткевіч



Уладзімір Караткевіч быў, ёсьць і будзе галоўным рамантыкам беларускай нацыянальнай ідэі.

Цягам усяго кароткага жыцьця кнігу за кнігай Караткевіч ствараў той нацыянальны міф, які іншыя народы пісалі стагодзьдзямі – раманы, поўныя рамантыкі.

Пасьля вайны, калі стаханаўцамі, будатрадамі й героямі пяцігодак адбудоўвалася савецкая імпэрыя – ён падымаў зь векавых руінаў Беларусь.

Гістарычны эпас, вершы, п’есы й кінасцэнары аднаўлялі ў масавай сьвядомасьці ўсю аграмаду Беларусі часоў ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Уладзімір Караткевіч стаў нашым Вальтэрам Скотам, Аляксандрам Дзюма й Шарлем дэ Кастэрам у адной асобе.

Караткевіч пісаў ужо для мільёнаў пакаленьня ўрбанізацыі, што ў 60-х – 80-х зрабілі Беларусь гарадзкой – і расказваў менавіта пра гарадзкую Беларусь Сярэднявечча. Беларускія палацы, замкі, храмы! – для сырое вясковае нацыі, якая перабіралася ў хрушчоўкі й панэльныя шматпавярхоўкі, гэткае адкрыцьцё было грымотамі сярод яснага неба.

Караткевіч – гэта бліскучы, пранізьлівы й навостраны стыль. Такое ўражаньне, што Караткевіч змагаецца за чытача кожнай фразай.

Прозу, п’есу, публіцыстыку Караткевіч па-беларуску геніяльна й проста ператвараў у паэзію, а саму паэзію рабіў эпічнай. Вялікія вобразы Караткевіча – хіты нацыянальнае ідэі. «Каласы пад сярпом тваім», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Сівая легенда», «Чорны замак Альшанскі», «Дзікае паляваньне караля Стаха», і, нарэшце, «Зямля пад белымі крыламі».

Караткевіч тонка адчуваў, наколькі чалавек слабы і грэшны.

У Караткевічы гучыць стогн душы, якую разрывае трагедыя роднае зямлі ў бязбожны час. Надрыўныя сказы – ранамі. Словы вострыя, бліскучыя, як клінкі Сярэднявечча – ягоная ўлюбёная зброя. Сваімі кароткімі, рэзкімі, моцнымі сказамі, пранікальнымі й паражаючымі, Караткевіч б’е ў самае сэрца – так, што хочацца крычаць ад жаху ці плакаць ад шчасьця. Месцамі заміраеш – чытаць проста балюча.

Караткевіч стварыў масавую нацыянальную сьвядомасьць, масавы попыт на беларускую літаратуру, першы фэномэн нацыянальнае масавае культуры – і гэта пры тым, што ягоная клясыка была ў прынцыпе элітарнай. Дзясяткі тысячаў сьвядомых беларусаў дагэтуль зачытваюцца менавіта Караткевічам.

У Караткевічы да самага далягляду раскінулася прастора вольнага Падняпроўя, поўнага крыві, сьлёзаў і сьвятое вады... Вялікі пясьняр нацыі, ён апеў беларускую веліч на найвялікшым абшары краіны.

Так, Караткевіч піў – тады творцы пілі, быццам сыходзілі ў партызаны. Караткевіч гуляў – так, як можа гуляць адчайны жыцьцялюб у задухе застою. Караткевіч верыў і выракаўся, каяўся – і выступаў як багаборца, хаця для тагачаснага ваяўнічага атэізму само прызнаньне Бога лічылася грэхам. Але – сярэднявечны вальнадумец! – ён здолеў данесьці да чытача адкрыцьці Беларусі, даступныя толькі праведнікам, прарокам і вялікім пісьменьнікам.

Ён не памёр – як і большасьць ягоных герояў, ён загінуў. Згарэў дарэшты, выканаўшы сваю місію. І пакінуў гэты сьвет рыхтык напярэдадні перабудовы й Адраджэньня – у 1984-м.

Але дагэтуль бачыцца: у белай, адпрасаванай кашулі, як ён пісаў заўжды, сьпяшаючыся й баючыся не пасьпець – адрывіста, востра, аўтаручкай, быццам пяром, Караткевіч расстаўляе кропкі над «і» й зьнічкі «у» кароткага.

*З кнігі Паўла Севярынца «Люблю Беларусь»*



*Вядучая рубрыкі – Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, паэт, публіцыст, драматург.*

*МАРГАРЫТА АЛЯКАЕВА*

## РАСКАЖЫ

Раскажы мне казку, добры дружа,
Раскажы, як стала добра жыць.
Раскажы, хто кволы, а хто дужы
І каму з гаспадароў служыць.

Раскажы мне, хто пабег у зграі,
Раскажы, а хто застаўся там,
Калі цемра панавала ў краі,
А навокал шум стаяў і гам.

Раскажы мне, што рабіць, дарэчы,
Калі прыйдуць, прыйдуць да мяне,
Усе пазабіраюць мае рэчы –
Быццам у нядолі альбо ў сне?

Раскажы, што гаварыць, што бачыць,
Раскажы, каму мне давяраць?
Раскажы, у што мне верыць, браце.
Раскажы, за што мне паміраць.

За што жыць мне, любы, любы дружа?
Мо не ведаеш таго і ты?
Бог нам дапаможа, Ён жа дужы!
Пабудуе Ён усе масты.

*СЯРГЕЙ ПАНІЗНІК*

## ВЕРУЮ...

Да сябе не падпускаю гора,
каб адчай не засціў мне павек.
Гараваў увесь дваццаты век,
дваццаць першы, веру, не пячора.
І няхай балючыя згрызоты
зацінаюць мой глыбінны ўздых –
радуюся: мёдавыя соты
у прыглядзе пчолаў маладых.
Вунь яны, расістыя прасторы!
Вунь Айчыны звонкі меданос –
горкі, дзе яго сушыла гора,
і салодкі, дзе ў свабодзе рос.
Да сябе не падпускаю гора
з прыпячорнай зморай на хвасце.
Век дваццаты прарастаў з пячоры.
Дваццаць першы з-пад бажніц расце.

*ЭЛЬВІРА ЯРЧАК*

## БАЦЬКОЎСКАЯ СУБОТА

За лістападам – снежань, і зіма
Засыпле купкі лісцяў залатых,
Ды будзе памяць вечнаю пра тых,
Каго сягоння з намі ўжо няма.

Іх душы з вышыні на нас глядзяць,
Па небе аблачынкамі ідуць,
Дажджынкамі на шыбы упадуць
Ды ветрыкам у дрэвах прашумяць.

За іх мы молім Бога і святых,
Як ставім свечкі ў храмах і дамах.
Хай будзе памяць вечнаю пра тых,
Каго сягоння з намі ўжо няма.

*СВЯТЛАНА КАРОБКІНА*

## * * *

Сябе згубіла ў садзе я,
У палынах здзічэлай вёскі,
Дзе у гняздзечку салаўя
Тры Божыя засохлі слёзкі;
Дзе лета нібы й не было,
А флёксы маміны гарэлі,
І пёк агонь маё крыло,
Стагналі-плакалі арэлі...
О, толькі б лялькаю не стаць
У тлумным горадзе далёкім,
Каб побач з попелам ляжаць
Пад ссохлаю біблейскай смоквай,
Што не дала сваіх пладоў
І будзе спілена на дровы,
Каб саграваць зімой дзядоў
За таямніцу іхняй мовы...

*Папраўка. Верш «Продкі», які змешчаны ў мінулым нумары «Крыніцы», належыць Аркадзю Нафрановічу.*



### Шаноўныя браты і сёстры!

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газэты «Крыніца», буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,
ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**
або тэлефон – **8 029 5160861 (Павал)**.

Незалежнае інфармацыйнае выданьне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ
Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 25 лістапада 2009
Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
Распаўсюд бясплатны.